 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1194) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 14 СТУДЗЕНЯ 1979 г. ЦАНА 60 гр.




*А за гэтым паваротам пушчанскі краявід яшчэ больш маляўнічы.*

**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**




## Броўск

І назвы маюць часы свайго росквіту. Яшчэ ў мінулым стагоддзі „Броўскам" называлі невялічкае паселішча на беразе ракі Нарвы, у якім была лесвічоўка для лесніка, што даглядаў за маленькім „абходам" на самым паўночным рубяжы Белавежскай пушчы. Потым гэтая мясціна стала сядзібай Броўскага надлясніцтва, якому было падпарадкавана некалькі суседніх абходаў. Пасля вайны, хоць сам Броўск знаходзіўся за граніцай, у Савецкай Беларусі, яго імем названа даволі вялікае надлясніцтва, што ахоплівала значны кавалак, бо ў звыш 8 600 гектараў пушчы, ад ракі Нарвы на поўначы да рэчак Гвознай і Нараўкі на поўдні. Некалькі год таму назад да яго далучылі вялікія пушчанскія абшары надлясніцтваў Нараўка і Лядская пушча і, такім чынам, цяпер ва ўладанні Броўска знаходзіцца амаль палова ўсяго абшару Белавежскай пушчы. І так назва „Броўск", хоць і адарвалася ад свайго кораня, усё ж жыве і расшырае свой абсяг!

Вядома, і кавалак Белавежскай пушчы з былога надлясніцтва Нараўка, і тым болей сама Лядская пушча заслугоўваюць асобных артыкулаў у нашым „Слоўніку", таму сёння мы зоймемся абшарам ранейшага надлясніцтва Броўск.

І адразу заўважым, што гэты абшар лесу мае багатую і не такую ўжо цалкам „пушчанскую" ці нават „лясную" гісторыю. Цяжка сказаць, ці густа яе насяляў чалавек у каменную эпоху, хоць на пясчаных „грудах" па-над ракою Нарвай каля Баб'яй Гары і Семяноўкі напэўна ён пакінуў сляды свае бытнасці, падобна тым, якія адкрыў драгічынскі археолаг З. Шміт у дваццатых гадах нашага стагоддзя каля вёскі Рудня, усяго якіх 10 кіламетраў ніжэй па цячэнню ракі. Там якраз знаходзілася стаянка першабытных людзей з неаліта (гэта значыць з часоў ад 4500 да 3700 гадоў таму назад). Не пакідалі людзі гэтых мясцін і ў далейшым, пра гэта сведчыць адкрытае непадалёк ад Броўскага надлясніцтва, ва ўрочышчы Гайдукі, пахаванне дзіцяці з III-IV стагоддзяў нашай эры, а каля вёсак Кутавой і Катлоўкі — курганы з V—VI стагоддзяў нашай эры. А ўжо ў IX—XIII стагоддзях было тут надта людна! У міжрэччы Нараўкі і Гвознай нашыя продкі пакінулі сотні курганоў, якія яны насыпалі на магілах са спаленымі або і не спаленымі астанкамі сваіх родзічаў. Некаторыя з гэтых збудаванняў вучоныя даследавалі, значная колькасць іх астаецца невядомай для археолагаў, але пра іх дасканала ведаюць жыхары Альхоўкі, Грушкаў, Масева і іншых тутэйшых сёлаў. Мне самому таксама паказалі адзін з такіх курганоў у пушчы — непадалёк дарогі з Альхоўкі ў Масева.

Але не толькі ў зямлі захаваліся помнікі з тых адлеглых часоў. З аднаго з самых старажытных пісьмовых помнікаў, Іпацьеўскага летапісу, вядома, што гэтыя землі ў XII-XIII стагоддзях былі месцам вельмі актыўнага дзеяння князя валынскага Рамана Мсціслававіча, яго сыноў: караля Данілы і князя Васілька і іх нашчадкаў. Не інакш, як сюдою імчаўся ў 1260 годзе з Мельніка над Бугам кароль Даніла Раманавіч, каб захапіўшы з Ваўкавыска падданага яму князя Глеба, кінуцца ў пошукі любімага свайго сына Рамана Данілавіча, якога схапілі ў палон літоўскія князі Таўціл і Вайшэлк, сыны Міндоўгавы. Данілавы ды Глебавы дружыны перахрэслі ўсё паміж Нарвай і Шчарай, але нават на след Раманаў не натрапілі. Надта ж умела звялі са свету маладога рускага каралевіча літоўскія каралевічы, яго канкурэнты да ўладання над Чорнай Руссю. У глыбокай жалобе вярнуўся ў Мельнік кароль Даніла. Там жа яго чакалі таксама невясёлыя весткі: з Яцвягіі на поўдзень калілася незлічоная арда татараў на чале з крывавым цемнікам Бурундаем. І хіба ж пасля гэтага ў міжрэччы Нараўкі і Нарвы на месцы людскіх паселішчаў пачаў расці лес...

Гадоў праз дванаццаць-трынаццаць князь літоўскі Трайдэн з поўначы і князь валынскі Уладзімір Васількавіч з поўдня пачалі сабе вырываць з рук абшары верхняга цячэння Нараўкі, Нарвы, Свіслачы, Зэльвы, Ясельды, Лясной. Пад 1273 годам у тым жа Іпацьеўскім летапісе чытаем: „Тройденій же послаВъ пешце та темь воевашеть Володимера, а Володимеръ послаВъ тако-же, и тако воевастася лето цело". І такое цягнулася некалькі год, аж урэшце рэшт абодва суседзі „уиристася и начаста быти въ велици любви..." А што ж пакінулі пасля сябе гэтыя падзеі? Пэўна такія назвы ўрочышчаў, як „Паліска" ці „Мырха" — выразна балтыйскага паходжання.

(Працяг на стар. 4)



*Звыш трыццаці год на лясной службе знаходзіцца Аляксей Савіцкі — дасканалы знаўца пушчы і замілаваны паляўнічы.*

## Гутарка дзядзькі Максіма

Маўчаў я доўга. Гэта праўда. Даруйце старому. Найперш маўчаў я таму, што злосць на пагоду запаўняла маё сэрца. Збожжа ледзь пазвозіў у гумно, а бульбу і буракі проста з балота прыходзілася вырываць. Чалавек вяртаўся з поля і толькі марыў, каб як найхутчэй дапасці да пасцелі.

А калі ўжо справіўся я неяк з асенняй уборкай, тады з'явілася ў мяне жонка майго сына з нечаканай прапановай. „Дзедку, кажа яна, паедзем у Турцыю". „А чаго мне да туркаў?", — гавару ёй, а яна кажа: „Вам то нічога, але мне трэба, вельмі трэба, бо ўсе мае сяброўкі ўжо там пабывалі, а якія цудоўныя кажухі папрывозілі!"

Я глядзеў на яе і здавалася мне, што знаходжуся якраз на турэцкай пропаведзі, бо ніяк не мог зразумець, чаго яна ад мяне хоча, чаму за кажухамі аж у Турцыю ехаць. Хто гэта бачыў? То ж і ў нас, слава богу, мужыкі самі вырабляюць авечыя скуркі. Аднак сыновая даводзіла мне, што нашы кажухі — гэта мужыцкая ерунда, а турэцкі кажушок — вось тавар! 25 тысяч злотых плоцяць за яго на кірмашы. Толькі яна баіцца ехаць, бо туркі, мабыць, вельмі ласыя на нашых жанчын, асабліва на бландзінак, такіх, як мая фарбаваная сыновая. І таму муж, значыць мой сын, не хоча яе адной пусціць...

Што ж было рабіць? Згадзіўся я на гэтую паездку, тым болей, што мая Палашка да гэтага мяне заахвочвала.

## Сярод туркаў

„Такога турка, як ты, гаварыла яна, цяжка будзе там адрозніць ад усіх іншых туркаў". І самому таксама хацелася паглядзець, як жывуць гэтыя туркі, ды ўсе іншыя народы, бо ў Турцыю прыйшлося нам дабірацца праз Савецкі Саюз, Румынію і Балгарыю.

Сяджу я ў спальным вагоне, ужо адляжаўся і выспаўся, ды ўзіраюся ў акно, за якім, быццам у фільме, мільгацяць незнаёмыя палі, лясы, вёскі і гарады. Вось цікава, куды не паедзеш, усюды на нашай зямлі жывуць людзі. А ў іх свае турботы, свае справы... Хацелася б спыніць гэты цягнік, прывітаць па-сяброўску першага-лепшага чалавека, запытаць, як яму жывецца? На жаль, цягнік толькі зрэдку спыняецца на станцыях, і найчасцей тады, калі наведваюць нас пагранічнікі або тамажнікі. Найперш польскія, затым савецкія, а пасля румынскія, балгарскія і ўрэшце, недзе апоўначы трэцяга дня падарожжа, паявіліся туркі.

Нас у купэ чацвёра: я з сыновай і нейкая варшавянка, маладзенькая бландзінка Тэрэса са сваім знаёмым, шмат старэйшым за яе чалавекам. Абое яны турбуюцца за свае кролікавыя футры. У Тэрэсы яно шэрае, а ў яе знаёмага, пана Генрыка, чорнае, фарбаванае. Футра Тэрэсы вісіць на вешалцы, а пан Генрык нацягнуў сваё на сябе, ды яшчэ прыкрыў яго плашчом. У вагоне цёпла. Пот стружкамі цячэ па яго шчоках, а ён стаіць і паўтарае: „Холадна, холадна", — і зусім не звяртае на тое, што турак штосьці да яго гаворыць. На ўсё толькі адказвае: „Холадна".

Я прыціснуў сваю сыновую ў куток, сяджу і гляджу на ўсё ды чакаю, што будзе далей. А тут турак згледзеў футра Тэрэсы і адразу да яе штосьці хутка зашчабятаў, з чаго зразумеў я адно слова: праблема. Бачу, што турак адной рукой учапіўся за футра, а другой лезе пад спадніцу пані Тэрэсы і паўтарае сваё „праблем". Неўзабаве паявіўся яшчэ адзін турак, мабыць, нейкі іх тамажны начальнік і выклікалі некуды нашу Тэрэску. Доўга яна не вярталася, вярнулася цэлая пачырванелая, знерваваная, а за ёю прыбег той самы турак, засмяяўся і заявіў: „О кей, но проблем!" — і пайшоў сабе, а мы спакойна леглі спаць.

Раніцай прывітаў нас Стамбул, даўнейшы Канстантынопаль, цэнтр старажытнай імперыі.

Над Басфорскім пралівам мільгацелі высокія жылыя карпусы.

— Хто жыве ў гэтых гмахах? — запытаў я аднаго турка, які крыху гаварыў па-польску.

Працяг на стар. 4

 




### НАС УСЁ БОЛЬШ

Насельніцтва зямнога шара павялічваецца прыкладна на 2 працэнты ў год. Паводле даных прыватнай амерыканскай арганізацыі — фонд абароны навакольнага асяроддзя, цяпер на зямлі пражывае 4.365.300.000 чалавек. За мінулы год нас стала больш на 59 мільёнаў. Насельніцтва Кітая нядаўна перавысіла мільярд. На другім месцы Індыя — 656 мільёнаў чалавек. Затым ідзе Савецкі Саюз — 261 мільён. На чацвёртым месцы ЗША — 230 мільёнаў.

Як паведамляецца ў дакладзе, самы высокі тэмп росту насельніцтва — у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах — 8,9 працэнта ў год, у Кувейце — 5,9 працэнта, у Лівіі — 4,1 працэнта. Штогадовы прырост насельніцтва ў Кітаі — 2,3 працэнта, у Індыі — 2,1 працэнта.

### БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ ГІЛЬЯЦІНЕ?

У час дэбатаў у французскім парламенце пры абмеркаванні бюджэту міністэрства юстыцыі дэпутаты ўнеслі прапанову выключыць з артыкула расходаў зарплату „хавальніку" гільяціны і кату Францыі. Прынянцце гэтай прапановы азначала б адмену смяротнага пакарання ў Францыі. Аднак на пачатак будучага года намечаны дэбаты аб вышэйшай меры пакарання, і таму парламент пакінуў праект бюджэту міністэрства юстыцыі без змяненняў. Апошні раз пытанне аб адмене смяротнага пакарання ўзнімалася ў Францыі ў 1908 годзе.




■ 28.12.1978 г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім выслухана і абмеркавана справаздача аб выкананні плана працы ў 1978 годзе і прыняты план на першае паўгоддзе 1979 г. У ім, між іншым, прадбачваецца пленум ГП БГКТ, прысвечаны працы гурткоў БГКТ.

■ У снежні 1978 г. Яніна Чэрнякевіч за дасягненні ў рэдагаванні „Зоркі" атрымала ўзнагароду Старшыні РСВ. Сардэчна віншуем!

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**230 гадоў назад**

16.I.1749 нар. В. Альф'еры, італьянскі паэт.

**140 гадоў назад**

19.I.1839 нар. П. Сезан, французскі жывапісец.

**110 гадоў назад**

15.I.1869 нар. Ст. Выспянскі, польскі драматург, паэт, мастак.

**60 гадоў назад**

15 I.1919 загінула Р. Люксембург, дзячка нямецкага, польскага і міжнароднага рабочага руху.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 33. Nakład 7.850 egz. S-4




*На Лукомскай ДРЭС.*

# САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ

1 студзеня Беларуская ССР святкавала юбілей 60-годдзя свайго нараджэння.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя карэнным чынам змяніла лёс народаў Расіі. Пасля больш чым трохвяковага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, паўстала магчымасць утварэння ўпершыню ў гісторыі беларускага народа самастойнай Беларускай Савецкай дзяржавы.

Ужо ў снежні 1917 г. Камуністычная партыя паставіла пытанне аб арганізацыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У лютым 1918 года меркавалася склікаць з'езд Саветаў Беларусі, які павінен быў вырашыць пытанне аб утварэнні БССР, але гэтаму перашкодзіла наступленне войск германскіх імперыялістаў. Другі раз справа ўтварэння БССР была пастаўлена 21-23 снежня 1918 г. на Усерасійскім з'ездзе беларускай' секцыі РКП(б), а ў снежні таго ж года ЦК РКП(б) прыняў пастанову аб утварэнні БССР. 1 студзеня 1919 г. быў апублікаваны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб стварэнні Беларускай ССР. Дзень гэты стаў днём нацыянальнага свята беларускага народа.

Прыступаючы да прадстаўлення гаспадарчага і культурнага развіцця Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, неабходна адзначыць, што была яна створана ў складаных умовах грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвенцыі. Нягледзячы на цяжкія ўмовы, з моманту ўстанаўлення савецкай улады рабочыя і працоўныя сяляне Беларусі пачалі перабудоўваць сваё жыццё на новы сацыялістычны лад. Важнай падзеяй у жыцці беларускага народа з'явілася ўступленне БССР у склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, які быў створаны ў снежні 1922 года. Кіруючыся ленінскім планам пабудовы сацыялізму, рашэннем Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада беларускі народ хаця з цяжкасцямі, але паспяхова ажыццявіў сацыялістычную індустрыялізацыю рэспублікі, калектывізацыю сельскай гаспадаркі і здзейсніў культурную рэвалюцыю.

У цяперашні час БССР з'яўляецца краінай высокаразвітай прамысловасці. Калі да рэвалюцыі большасць прамысловых прадпрыемстваў складалі маленькія майстэрні, якія займаліся выпускам падставовых сельскагаспадарчых прылад, то ў савецкі час на базе цяжкай індустрыі шырокае развіццё атрымала лёгкая і харчавая прамысловасць. Прадпрыемствы рэспублікі выпускаюць разнастайную прадукцыю: аўтамабілі, трактары, падшыпнікі, электрарухавікі, металарэжучыя станкі, матацыклы, веласіпеды, цэмент, шыфер, гадзіннікі, шарсцяныя тканіны, абутак і інш. За гады савецкай улады БССР стала вялікім эканамічным раёнам, які адыгрывае значную ролю ў агульнадзяржаўнай вытворчасці. Сярод усіх рэспублік СССР займае яна 2 месца па здабычы торфу, вытворчасці фанеры, ільноваакна і ільняных тканін і 3 месца па вытворчасці грузавых машын, трактараў, металарэжучых станкоў і цэмента. Прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў, асабліва аўтамабільных, карыстаецца вялікім попытам не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ў іншых краінах свету. Трактары, аўтамабілі, станкі і іншыя віды прамысловай прадукцыі Беларусь вывозіць больш чым у 30 краін свету. Дзякуючы хуткім тэмпам развіцця, аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў 30 разоў у параўнанні з 1913 г. Цяпер Беларусь выпускае больш металарэжучых станкоў, чым выпускала іх уся дарэвалюцыйная Расія. Па прадукцыі некаторых відаў прамысловасці Беларуская рэспубліка абагнала многія капіталістычныя краіны свету. Напрыклад: па выпуску грузавых машын абагнала Аўстрыю, Швецыю, Данію, а па выпуску трактараў — Італію і Аўстрыю.

Карэнным чынам змянілася жыццё сялян Беларусі. Сацыялістычная перабудова і тэхнічнае пераўтварэнне сельскай гаспадаркі змянілі аблічча беларускай вёскі. Непараўнальна змяніўся культурны ўзровень вёскі. За гады савецкай улады беларускі народ ажыццявіў культурную рэвалюцыю. Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны ў БССР была ліквідавана непісьменнасць, паўстала многа сярэдніх школ. У цяперашні час навучаецца ў іх у шэсць разоў больш дзяцей, чым у школах, якія існавалі да рэвалюцыі. Створаны шматлікія культурна-асветныя ўстановы: тэатры, кінатэатры, клубы, музеі, бібліятэкі і іншыя.

Калі, напрыклад, у 1913 годзе на тэрыторыі Беларусі была 851 бібліятэка з 423 тысячамі экземпляраў, то цяпер маем іх 7255 з кніжным фондам 51908,4 тысяч тамоў.

Дасягненні Беларускай ССР за гады савецкай улады сведчаць аб правільнасці абранага шляху развіцця. Мы са свайго боку жадаем ёй далейшых поспехаў у развіцці і будаўніцтве савецкай гаспадаркі.

**Н. Панасюк**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Усё з зямелькі ● Новыя вершы Пімена Панчанкі ● Аб медыцынскай дапамозе ў Беларусі ● Пульс дома культуры ў Райску ● Піліп Саскіназірае за вясельнымі госцьмі ● Аб цішыні перад бурай расказвае Ніна Мушынская ● У чым корань — адказвае дзядзька Квас ● Аб Піліпках гаворыць солтыс ● Як стаць афіцэрам ● Весткі з Бельска, Заблудава, Орлі, Гайнаўкі, Крывяціч, Нараўкі ● Калі сняцца яблыкі ● Песня „Jesienne róże".**




**Sobota 13 I** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 7.05 Mat. 7.35 Biol. 8.05 Dla kl. VIII Nauka o czł. 8.45 Pr. dnia. 8.50 Apel warszawski — film dok. 9.30 Pory roku: Styczeń. 10.30 Jerzy Surdel: Początek wielkiej przygody — filmy dok. 11.00 Poranek z kulturą. 12.30 Nowy lekarz — film NRD. 13.55 Radzimy rolnikom. 14.05 Studio 2.

**Niedziela 14 I** — 6.25 TTR. Mat. 6.55 Biol. 7.25 Nasze spot. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielkie rzeki świata: Dunaj — film dok. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Tylko w niedzielę. — 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ślad na ziemi — odc. I serialu TP. 22.05 Sport.

**Poniedziałek 15 I** — 15.15 Pr. dnia. 15.20 NURT — mat. 15.50 Obiektyw. 16.10 Dziennik. 16.20 Dzień dobry, tu telewizja. 16.40 Zwierzyniec. 17.15 Sportowe echa niedzieli. 17.30 Z tamtej strony tęczy — pol. dramat obycz. 19.00 Uszatek i Zębatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. S. Grochowiak: Po tamtej stronie świec. 21.50 Śledztwo zostało wznowione — pr. publ. 22.20 Jak? 23.00 Dziennik.

**Wtorek 16 I** — 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Klub Seniora. 16.10 Dziennik. 16.20 Dzień dobry, tu telewizja. 16.40 Studio Mł. 17.15 Interstudio. 17.45 Sonda: Alarm. 18.15 Raj zwierząt — film przyr. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Miś Uszatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Pogoda dla bogaczy — ser. ameryk. 21.25 Wszystko za wszystko. 22.25 Dziennik. 22.40 Szuflada.

**Środa 17 I** — 14.30 W drodze do nowego. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Nurt — naucz. pocz. 15.50 Obiektyw. 16.10 Dziennik. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.40 Entliczek-słowniczek. 17.05 Los. Małego Lot. 17.30 10 minut — teletur. 17.40 S. Karpiński „Poemat warszawski" — wid. poetycko-muz. 18.05 Skarbiec. 18.35 Między nami jaskiniowcami — ameryk. ser. 19.00 Przygody Rozbójnika Rumcajsa. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 S. Grzesiuk „Boso, ale w ostrogach". 22.10 X Y Z cz. I. 22.40 Dziennik. 22.55 X Y Z cz. II.

**Czwartek 18 I** — 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Co dalej maturzysto? 16.10 Dziennik. 16.20 Dzień dobry, tu telewizja. 16.40 Czwartek TDC. 18.15 Kartki z poligonów. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Wiewiórka Flic. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Columbo — ser. ameryk. 21.50 Pegaz. 22.35 Dziennik.

**Piątek 19 I** — 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 15.05 Red. szk. zap. 15.15 Pr. dnia. 15.20 NURT — psych. 15.50 Obiektyw. 16.10 Dziennik. 16.20 Dzień dobry, tu telewizja. 16.40 Piątek z Pankracym. 17.05 Klinika zdrowego człowieka. 17.50 Jedenaste przykazanie — odc. III ser. CSRS. 19.00 Osiołek poznaje świat. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Muzyka dla Warszawy. 21.00 Dobre rady doktora Kudry — czechosł. kom. 22.15 Świat, ludzie, idee. 22.45 Dziennik. 23.00 Studio Gama przedstawia: Kogiel mogiel.




**Piątek 12 I** — 7.35 Film fab. 17.10 Spektakl. 17.45 i 19.35 Błękitny płomyk.

**Sobota 13 I** — 9.50 Koncert zesp. dziecięcych. 11.25 Spektakl. 15.00 W świecie zwierząt. 17.30 Film fab. 21.10 Śpiewa G. Karowa.

**Niedziela 14 I** — 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 15.00 Klub film. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Film anim. 17.05 Balet. 17.30 Wieczór humoru. 19.35 Konkurs młodych wykonawców.




Беларуская радыёперадача: **субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Mężczyzna z białym goździkiem — szwedz. 14. Barocco — fr. 16—17. Azyl — pol. 18—19. Odrażający, brudni, źli — wł. 20—21.

**Bielsk Podl.** Ifigenio — grec. 15. Kuzynka Angelika — hiszp. 16—17. Znaki zodiaku — pol. 18—19. Pocałunki z Honkongu — fr. 20—21.

**Czeremcha** Mam 19 lat — NRD 16—17. Szacowni nieboszczycy — wł. 20—21.

**Czyże** Rozumiemy się bez słów — czes. Zdrajczyni — radz. 17—21.

**Gródek** Barocco — fr. 20—21.

**Hajnówka** Wyspy na Golfstrorio — USA 18—19. Wesela nie będzie — pol. 20—21.

**Michałowo** Nieme kino — USA 16—17. Miłość Adeli H. — fr. 18—19. Pokój z widokiem na morze — pol. 20—21.

**Mielnik** Cenny depozyt — fr. 17. Najlepsza kobieta mojego życia — czes. 20—21.

**Milejczyce** Azyl — pol. Niedokończony utwór na pianolę — radz. 17—21.

**Narew** Trochę nadziei — NRD. Goń mnie aż cię złapię — fr. 17—21.

**Narewka** Królowa pszczół — pol. Ofiara namiętności — hiszp. 17—21.

**Nurzec** Przyjaciele Eddiego — USA 16—17. Miłosne życie Budimira Trajkovicia — jug. 18—19. Zakręt — pol. 20—21.

**Orla** Bałwanek płynie do Afryki — NRD. Sprawa Gorgonowej — pol. 17—21.

**Rajsk** Na skraju lasu — czes. Pintea — rum. 17—21.

# ТРЫБУНА чытачоў

*Усім сваім карэспандэнтам, сімпатыкам і верным чытачам сардэчнае дзякуй за памяць і прысланыя святочныя і навагоднія пажаданні.*

**Трыбуна карэспандэнтаў і чытачоў**

## ВЯЛІКАЯ РАБОТА

Я даўней пісаў пра меліярацыю ў Плёсках, што зрабілі яе без толку. І вось работа пайшла поўным ходам, працавалі два экскаватары — адзін на галоўным рове, а другі абкопваў дарогу. Рабілі таксама праездныя масткі. Прывезлі бетонныя кругі на дарожныя праезды.

**Міхал Кірылюк**

## АЎТОБУС САПРАЎДЫ НЕ ЕЗДЗІЦЬ

Да нас дайшла вестка, што перастаў ездзіць аўтобус з Цялушак у Беласток. Аб гэтым мы напісалі нашаму карэспандэнту, ніжэй падпісанаму, каб спраўдзіў на месцы, ці сапраўды яно так. Ніжэй яго адказ:

Даведаўся я аб курсе аўтобуса з Цялушак у Беласток. Я сёння ў Рыбалах і дапытаўся ў людзей, што гэты аўтобус сапраўды не курсуе амаль ужо месяц. Мне аб гэтым гаварылі жанчыны. Часам ён прыедзе ў Рыбалы і вяртаецца назад. А дарога ў Цялушкі добрая.

**Міхал Кірылюк**




## ДАМАЛОТКІ

*Ясь пайшоў на дамалоткі,*
*Малавата было водкі.*
*Што рабіці, дзе шукаці?*
*Йдуць да Тоська выпіваці.*

*Выпілі ў яго паўлітра,*
*Апанасу стала хітра.*
*Трэба, братцы, вам сказаці —*
*Пойдзем другую шукаці.*

*Ну, куды ж? Да каваля,*
*Заспяваем тра-ля-ля.*
*Тая жонка маладая,*
*Дык напэўна водку мае.*

*Тут каваль на ўсё згадзіўся*
*І да хаты ледзь ўваліўся.*
*Жонка крычыць із пасцелі:*
*„Чаго хочаш ты, халера?“*

*А каваль прыемна — гладка:*
*„Выпіць трэба, бач, з Ігнаткам.*
*Ты, Палашка, не круціся,*
*Хочаш крышку пахмяліцца?“*

*Як Палашка раззлавалась,*
*Каваля спаці пагнала,*
*А Ігнатка сам астайся,*
*Пахмяліцца не даждайся.*

**М. Лук'янюк**

душна слухаў яго расказ, толькі пасля гэтых слоў ажывіўся. Ён ускочыў з крэсла і пачаў бегаць па кабінеце. Праз мінуту ён спыніўся ля століка, заастаўленага тэлефоннымі апаратамі, і набраў нейкі нумар.

— „Кенігсбергер Альгемайне цайтунг“? Злучыце мяне з галоўным рэдактарам. Гаворыць Кох, — дадаў ён, хоць сакратаркі і так добра ведалі яго голас.

А ў наступную мінуту Кох ужо даваў распараджэнні галоўнаму рэдактару:

— Аўтару паведамлення з Царскага Сяла прэмія ў дзве тысячы марак за цікавы рэпартаж. Далікатна намякніце яму, каб праз тыдзень, з перапынкам ў два дні, ён напісаў наступныя тры артыкулы пра Янтарны пакой. Няхай напіша аб небяспецы, што пагражае твору мастацтва; можна ўспомніць аб блізкасці фронту, паветраных налётах і савецкіх сабатажніках. Няхай напіша аб загадзе савецкіх улад знішчыць усё, што мае якую-небудзь каштоўнасць.

Вы ніколі не чулі пра такі загад? Нічога. Пакрытыкуйце кампетэнтныя органы. Так-так, абавязкова так і напішыце. Дык вось, паўтараю, пакрытыкуйце кампетэнтныя органы за тое, што дагэтуль яны не заняліся Янтарным пакоем і не вывезлі яго ў рэйх. Напомніце таксама, што ў арміі няма часу займацца помнікамі мастацтва.

*(Працяг будзе)*

## ПРА СПОРТ У НАРАЎЦЫ

У Нараўцы адбыўся гмінны з'езд ЛЗС. Дэлегаты і запрошаныя госці звярталі ўвагу на неабходнасць арганізавання спартыўных спаборніцтваў, а таксама адпачынку для насельніцтва.

Найбольшым ЛЗСам у гміне з'яўляецца ЛКС „Лес“ у Нараўцы. У ім дзейнічаюць тры секцыі: футбольная, настольнага тэнісу і шахматная. Настольныя тэнісісты і тэнісісткі іграюць у ваяводскім класе „А“. Шахматысты былі першымі ў раёне ў барацьбе за „Залатую вежу“. Горш маецца справа з футбалістамі. Яны не маюць дзе іграць. Мясцовы стадыён у рамонце. Але кіраўніцтва ОСіР абяцае, што новы спартыўны сезон будзе на мясцовым стадыёне.

З'езд ацаніў дапамогу прадпрыемстваў ЛЗСу. Аказваецца, найбольш дапамагаюць чыгуначнікі з Семяноўкі, керамікі са Старога Ляўкова і гміннае праўленне. Іншыя так важнай працай з моладдзю не цікавяцца. А шкада!

Дэлегаты выбралі новыя ўлады. Прэзасам застаўся далей мгр Яўген Валкавыцкі, а дэлегатам на ваяводскі з'езд быў выбраны Павел Леўша.

**А. З.**

## ПА ТЭНІСУ І ШАХМАТАХ

У Нараўскай гміне няма яшчэ зборнай гміннай школы. Зразумела, якія цяжкія ўмовы працы тут у школьных будынках. Няма ніводнай школы з гімнастычнай залай. А школ шмат, бо аж сем. Што рабіць з моладдзю зімой на ўроках фізкультуры? І вось настаўнікі пачалі арганізоўваць школьныя і міжшкольныя спаборніцтвы па настольнаму тэнісу і шахматах. Настаўнік Васіль Цімафеюк давёў дзяўчат і хлопцаў да перамогі ў раёне па настольнаму тэнісу. Сярод дзяўчат першай была Малгажата Драўноўская, а з хлопцаў Кшыштаф Асташэўскі.

Настаўнік Анатоль Герман заняўся шахматамі. Шахматысты перамаглі ў Гайнаўцы, Сямяцічах і едуць іграць у Беласток. Найлепшым з'яўляецца Аляксандр Смактуновіч.

Дырэкцыя школы і бацькі вельмі задаволены такімі поспехамі школы.

**А. З.**




**Іван Кірызюк, Бельск.** З новых вашых вершаў „Йдэ“ і „Час росчаравання“ будуць надрукаваны ў календары на 1980 год. Іншыя — у „Парнасіку“.

**Тамаш Кірылаў, Легніца.** „Вельмі дзякую за ваш ліст. Я паслаў запатрабаванне на тры беларускія кніжкі ў кнігарню ў Саколку. Ад лістапада 1978 года я выпісаў „Ніву“ і на ўвесь 1979 год. Выпісаў таксама „Ніву“ для майго знаёмага беларуса з Крулеўшчыны, які жыве цяпер у Чыкага. Там таксама жывуць беларусы. Няхай не забываюць пра бацькаўшчыну.

Хачу сказаць, што „Ніва“ — гэта газета на высокім узроўні. Тут усялякія артыкулы: літаратура, гісторыя, песні, парады, гумар, а нават сардэчныя тайны. Мне „Ніва“ лепш падабаецца, чым многія іншыя тыднёвікі. Думаю, што ў Чыкага „Ніва“ спадабаецца таксама маім знаёмым.

Прыміце маё самае высокае прызнанне за роднае зерне, якое сееце ў беластоцкую ніву. Ваша праца вельмі патрэбная, хоць вымагае шмат намаганняў. Я ўсё шкадую, што задалёка жыву ад вас. Шчыра кажу, у Легніцы адчуваю сябе самотна. Цудоўна адчуваю сябе ў Беластоку.

Учора дайшоў ужо да 104 старонкі маёй новай кніжкі „Над Дзвіной, над Одрай“. Пішу ў ёй пра польска-беларуска-рускую дружбу. Пішу аб глыбокай прывязанасці да роднай вёскі Сорыкі. Здаецца, што цэласць будзе на 250-280 старонак. Думаю на весну закончыць гэтую працу.

Нядаўна ў нядзелю ў тэлевізіі ішоў французска-польскі фільм „Бітва пад „Грунвальдам“. Там было сказана, што бацька Ягелы быў ліцвін, а маці русінка (беларуска). Вельмі мяне гэта зацікавіла і пацешыла. Вы напэўна пра гэта ведаеце.

Прашу ў далейшым давайце тэрміны беларускіх радыёперадач з Беластока. Яшчэ не злавіў іх па радыё, але думаю гэта зрабіць. Пакуль пацяшаюся, слухаючы пласцінкі Забэйды-Суміцкага“.

## ДА КАЛЕГАЎ-ПІСЬМАНОСЦАЎ

Многа пішацца аб працы пісьманосцаў. Часта і дрэнна пішацца, што несістэматычна разносяць газеты, што не хочацца ім хадзіць па хатах і гэтак далей. Фактычна, ёсць пісьманосцы, якія вельмі нерэгулярна разносяць і „Ніву“ і таму адбіваюць чытачоў.

Многа залежыць у падпісцы данай газеты ад начальніка пошты. А ёсць такія самаахвярныя людзі. Для прыкладу падам начальніка пошты ў Старым Корніне Кірыла Кудэрскага і Лідзію Мікульскую ў Дубічах Царкоўных. Варты слоў падзякі дырэктар гайнаўскай паштовай акругі Мікалай Суліма. Ён кожны раз напамінае ўсім пісьманосцам, каб „Ніву“ лічылі адной з першых газет у сваёй падпісцы і каб лік яе заўсёды ўзрастаў.

Некалькі слоў пра сябе, і няхай ніхто не падумае, што хвалюся. Дык вось: на новы 1979 год выпісаў я 180 экз. „Нівы“ і ўсе гадавыя. Гэта значыць, што амаль у кожную хату будзе прыходзіць „Ніва“. Мо нейкіх дзесяць чалавек з майго раёна не выпісалі нашай газеты па розных прычынах. Я ўпэўнены, што кожны пісьманосец можа так пастарацца, абы толькі меў жаданне.

І зусім не цяжка мне насіць столькі газет па хатах, а наадварот — маю гонар, што гэта раблю, бо „Ніва“ мае вялікі аўтарытэт у людзей.

У некаторых пісьманосцаў адпала жаданне выпісваць газету таму, што цяпер не плоцяць правізіі. Але гэта ж дробязь! Рэдакцыя са свайго боку ўсім пісьманосцам, якія пастараліся больш у падпісцы, прызнае кожны год узнагароды. І такая ўзнагарода пераважна ў два разы даражэйшая, чым сама правізія была. Так што нічога не страчана. Таму, дарагія сябры пісьманосцы, не забывайцеся пра родную „Ніву“ і выпісвайце яе людзям як найбольш. Цвёрда прыміце гэты заклік.

**Мікалай Панфілюк**

## СУСТРЭЧА ПАКАЛЕННЯЎ

У снежні з выпадку 30 гадавіны аб'яднання польскага рабочага руху адбылася гмінная Сустрэча пакаленняў, на якой былі ўручаны 11 кандыдацкіх білетаў партыі членам ЗСМП. У час сустрэчы камендант гарцэрскага гуфца ў Дубічах Царкоўных Лідзія Саевіч склала рапарт аб рэалізацыі гарцэрамі Гарцэрскага рапарту партыі.

На сустрэчы прысутнічалі ветэраны — члены ППР, якім былі ўручаны ганаровыя лісты і значкі. Былыя ППРаўцы ўспаміналі аб сваёй дзейнасці ў партыі. Сустрэча прайшла ў мілай, сяброўскай і сардэчнай атмасферы.

**М. Панфілюк**

## НОВАЯ РАМІЗА

У Тафілаўцах, Дубіцкай гміны, нядаўна была аддадзена ў карыстанне святліца разам з рамізай. Усе работы як у сярэдзіне, так і звонку ўжо выкананы. Цяпер жыхары гэтай вёскі ў доўгія зімовыя вечары ці святам маюць куды зайсці. На 10 тысяч злотых ужо куплены розныя ігры, якімі карыстаюцца ўсе. Хутка будзе стаяць на сваім месцы і тэлевізар.

Спадзяемся, што і мясцовая моладзь не будзе драмаць, як дагэтуль.

Баявая пажарная ахова вёскі мае таксама сваё прыстанішча — рамізу, куды яны ўжо перанеслі ўсе пажарныя прылады і рэчы.

Найбольш сілы і ахвярнасці ў пабудову аб'екта ўнеслі Іван Роля — камендант аховы, Уладзімір Хіліманюк — прэзас і ўсе іншыя пажарнікі вёскі.

**М. Панфілюк**




Трагічны выпадак здарыўся на дарозе Гайнаўка-Бельск паблізу вёскі Хітра (Гайнаўскай гміны). Уласнай „Варшавай“ ехаў чалавек, які не меў права язды і, не захоўваючы належных правіл, абгнаў трактар. У выніку — уласнік „Варшавы“ загінуў на месцы, а яго пасажыры былі паранены, самаход разбіты.

На скрыжаванні вуліц Лешчыновай і Гаевай у Беластоку шафёр транспартнага „Ельча“ з прычэпай паслізнуўся і вывернулася прычэпа, а з яе выцекла 5000 літраў этэліны — страты на 51 000 зл.

## ВІНАВАТА І ГМІНА

Восенню 1978 года ў „Ніве“ крытыкаваліся пажарнікі і моладзь з вёскі Тапаркі за тое, што яны абыякава адносіліся да распачатай ужо некалькі гадоў таму назад пабудовы ў сваёй вёсцы святліцы з рамізай. Адзін зруб не накрыты стаіць дагэтуль.

Даведаўся я цяпер, што і гміна ў Кляшчэлях тут многа вінавата, бо не дае патрэбных матэрыялаў і прызнаных грошай на пабудову. Пётр Патэюк — ініцыятар пабудовы рамізы часта сварыцца з гмінай у Кляшчэлях за такія іх адносіны да вёскі. Аднак яго сварка пакуль нічога не дае, бо працаўнікі гміны — людзі ўпартыя.

**М. Панфілюк**

## ПАДЗЯКА ЗА ПРАЦУ

Заўсёды мілы момант у жыцці, калі хто-небудзь ацэніць тваю работу. Цёплыя словы ад гмінных уладаў у Нараўцы плылі да сеньёраў на сустрэчы ў гмінным цэнтры культуры. Улады дзякавалі за іх добрую працу ў мінулым і за сённяшнюю актыўную грамадскую дзейнасць.

Пенсіянеры дзяліліся сваім вопытам, дасягненнямі і недахопамі ў працы. Былі кветкі ад гарцэраў. Моладзь спявала песні і чытала вершы. Самыя актыўныя атрымалі дыпломы ад гмінных улад. Гэта былі: Максім Карпюк, Андрэй Трусевіч, Аўгіня Пацэвіч, Сцяпан Пучынскі, Адам Гугалка, Мікалай Базан, Ян Алеярчык, Сцяпан Немцуновіч і Грыша Пацэвіч.

Таксама кіраўніцтва мясцовых прадпрыемстваў дзякавала сваім пенсіянерам, жадаючы ім добрага здароўя.

**А. З.**

## АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „ТАЯМНІЧАЯ КРАМА Ў БЕЛАСТОКУ“, „Ніва“ № 47/1186 ад 19 XI 1978.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKIE PRZEDSIĘBIORSTWO HANDLU WEWNĘTRZNEGO W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na notatkę w sprawie „Tajemniczego sklepu w Białymstoku”, uprzejmie informujemy, że zamiast szyldu, który nie jest przewidziany, na szybie jest napis „WPHW” i podane godziny otwarcia sklepu.

Okna sklepu, podobnie jak w „Modzie Damskiej”, w „Modzie Męskiej” i szeregu innych sklepach nie są dostosowane do ekspozycji towarowej, jednakże zainteresowani mają bezpośredni wgląd do wnętrza sklepu.

Jednak przedsiębiorstwo uwzględniając cenną uwagę redakcji wykona napisy informacyjne na szybach okien wystawowych o oferowanym towarze do sprzedaży.

Z-ca Dyrektora
d/s Obrotu Towarowego
mgr Adam Stępniak

**Да публікацыі: „ЯК РОБІЦЦА МЕЛІЯРАЦЫЯ Ў ПУХЛАХ?“. „Ніва“ № 47/1186 ад 19 XI 78.**

**Адказвае: BIAŁOSTOCKI ZWIĄZEK SPÓŁEK WODNYCH W BIAŁYMSTOKU.**

Białostocki Związek Spółek Wodnych — Biuro w Białymstoku, informuje, że zgodnie z planem konserwacji roboty renowacyjne na rowie „A” hm 0+440—0+840 mb. 400 (wieś Puchły) przewidziane były do wykonania w roku 1978. W zakres tych robót wchodziło odmulenie cieku i umocnienie stopy skarp kiszką faszynową ⌀ 15 cm.

W miesiącu czerwcu zgromadzono potrzebne materiały i przystąpiono do wykonawstwa robót. Wysoki stan wody w rzece Narwi utrzymujący się przez cały sezon produkcyjny, nie pozwolił na wykonanie umocnienia na w/w rowie w dolnym odcinku (w zasięgu cofki rzeki Narwi). Pozostały górny odcinek został wykonany zgodnie z założeniami. Materiały, które były zgromadzone, składowane były prawidłowo i nie nastąpiło ich zniszczenie. Ponieważ z przyczyn obiektywnych nie można było zakończyć robót na rowie „A”, kiszki faszynowe przewieziono na obiekt Odrynki i tam je wbudowano.

Kierownik
mgr inż. Jerzy Paczkowski

**Да публікацыі: „ВУЛІЦА Ў КАРЫЦІСКАХ“, „Ніва“ № 50/1189 ад 10 XII 78.**

**Адказвае: NACZELNIK GMINY W DUBICZACH CERKIEWNYCH.**

Naczelnik Gminy w Dubiczach Cerkiewnych niniejszym informuje, że autor notatki widocznie nie był w Koryciskach i nie zna istniejącego stanu rzeczy.

Ulica, będąca w przebudowie, nie była w takim stanie, aby rolnicy musieli budować, jak pisze autor, „mostki i inne cuda” na dojazd do zagrody.

Dziwnym wydaje się stwierdzenie — cytuję „mieszkańcy swoje zrobili, każdy na przeciwko swojej posesji wykopał rów — i to wyszło na ich biedę”, albo „administracja niech ratuje swój honor”. Można by polemizować, kto powinien ratować swój honor? Na wizytację ulicy zapraszam autora. Jezdnia ulicy brukowanej została poszerzona, wyżwirowana i przygotowana do ułożenia asfaltowej nawierzchni.

Honorem naszym było, by w jednym roku wykonawca, któremu zlecono przebudowę — to jest Rejon Eksploatacji Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim, w pełni zakończył budowę wraz z ułożeniem nawierzchni. Jednakże z braku potrzebnych materiałów wykonawca w umowie zastrzegł, że w 1978 r. zostaną wykonane tylko prace ziemne, a ułożenie dywanika bitumicznego zaplanowano na 1979 r.

Naczelnik Gminy
Mikołaj Czykwin

